Opłata poczt… …ona rycz…

# Наперад!

Беларуская радыкальная тыднёвая часопісь.

Цана асобнага нумару 20 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская 8, кв. 3.

Прыймо інтэрэсантаў ад 9 да 2 гадз. што-дня, апрача сьвятаў і нядзель.

Падпіска з дастаўкай да хаты: на 1 год—7 зл., за паўгоду—3 зл. 50 гр., за 3 мес.—2 зл., за 1мес.—75 гр.

Год 2. Вільня, 18 верасьня 1930 г. №. 25

## Цэнтральны Саюз і набліжаючыеся выбары у Сойм.

Да гэтага часу беларускае грамадзянства ў часе выбараў у Сойм ішло за рознымі палітычнымі групамі й партыямі, якія прываблівалі працоўны народ вельмі многаабяцаючымі лёзунгамі й праграмамі.

Кожная партыя, ці то нават маленькая групка людзей, якім смакавалі пасольскія мандаты, заўсёды абяцала нам вельмі многа, але, як аказывалася, — народ заўсёды ашуківала і ніякага палепшаньня долі, якое б ішло ці то ад беларускіх „дабрадзеяў“, ці то — польскіх—ён ня бачыў.

Ня будзем спыняцца над тым, чаму гэта так сталася і чаму да сёньняшняга дня ўмовы нашага палітычнага й культурна-нацыянальнага жыцьця ніскольні не палепшыліся.

Многа было да таго такіх прычын, якіх мы ня маглі перамагчы, і якія зьяўляюцца сільнейшымі ад нас.

Але ў адным, усё-ж такі—вінавата й само беларускае грамадзянства, якое ў большай частцы пасылала ў Сойм першых лепшых дэмагогаў і крыкуноў, якія рупіліся ў часе паславаньня выключна пра свае ўласныя інтэрэсы—рабілі сабе маёнткі і жылі прыпяваючы.

Доказам таго, што гэта так, а ня іначэй, служыць хацяж-бы той сумны для нас факт, што амаль паўтара дзесяткі беларускіх пасloў ня маець „сілы“ выдаваць рэгулярна а ні воднай беларускай газэты.

Ганьба й сорам, якіх ня бачыў яшчэ сьвет: газэты пачынаюць у нас выдаваць тады, калі пачынаецца лоўля пасольскіх мандатаў.

І вось цяпер, калі мы стаім перад новымі выбарамі, нам патрэбна, паскольні мы зьяўляемся сьвядомымі беларусамі—прызадумацца над тою тактыкаю, якой трэба было-б трымацца пры сучасных выбарах.

Ці рацыянальна будзе, калі мы па прыкладу прошлых гадоў, будзем галасаваць за розныя палітычныя партыі, якія нічога фактычна да гэтага часу не зрабілі карыснага для беларускага народу і, як мы пераконаны, нічога ня могуць зрабіць і цяпер.

І ці ня лепш было-б для ўсёй беларускай справы і для ўсяго нашага нацыянальнага адраджэнскага руху, каб за выбары ў Сойм узяліся нашыя культурна-асьветныя і каапэратыўныя ўстановы і арганізацыі, якія сваёю карыснаю працаю даказалі ўсім, якім важным чыньнікам яны зьяўляюцца ў нашым жыцьці.

Ці ня варта было-б нашаму Цэнтральнаму Саюзу кінуць кліч, — каб усё сьвядомае грамадзянства галасавала за тых людзей, якіх павінны, па нашай думцы, высунуць беларускія арганізацыі й установы і за якіх яны возьмуць маральную адказнасьць. Бязумоўна, што „стварыць цуда“ і гэтыя людзі ня змогуць, але, калі-б мы правялі ў Сойм такіх людзей, якія стаючы на груньце пазытыўнае, штодзеннае працы рэчова баранілі-б нашыя правы ў Сойме і перад урадам — бязумоўна, было-б больш карысьці, чым было яе да гэтага часу. Над гэтым пытаньнем варта было-б затрымацца ўсяму нашаму нацыянальна—сьвядомаму грамадзянству і таму Зьезду беларускіх арганізацыяў і інстытуцыяў, які хутка зьбярэцца.

## Прадвыбарная хроніка.

Увесь апошні час адбываліся нарады г. зв „Цэнтралеву“, у які ўваходзяць 6 апазыцыйных да сучаснага ўраду партыяў. Ня ўсё там ідзець гладка, бо, як відаць з газэтных вестак, — гэты штучны палітычны твор ніяк ня можа дайсьці да паразуменьня: ізноў паміж польскаю „хадэцыяй“ (Chrześcianska Demokracja) і іншымі партыямі выявіліся пэўныя супярэчнасьці і розьніцы ў паглядах на шмат якія сацыяльна-палітычныя пытаньні.

---

7 верасьня адбылася партыйная нарада Цэнтральнага органу „Бунда“, на якой пастаноўлена зьвярнуцца да ўсіх сацыялістычных партыяў аб арганізацыі аднолітага сацыялістычнага фронту з уласным выбарным сьпіскам.

Гэткім чынам, як відаць, жыдам ня ўдасца ўтварыць агульна-жыдоўскі блёк.

Жыды—артадоксы праэктуюць утварыць свой уласны сьпісак, і будуць падтрымліваць сучасны ўрад.

---

Галоўны кіраўнічы орган Партыі Працы пастанавіў, як падае „Kur. Wileński“ прыняць чынны ўдзел у выбарах і дзеля таго, што польскае грамадзянства раскалолася на 3 выразныя групы — лягер—марш. Пілсудскага, „Цэнтралеў“ і нацыянальны лягер, — выступіць салідарна з лягерам марш. Пілсудскага.

---

Выясьнілася аканчальна, што польская „Хадэцыя“ пойдзець да выбараў самастойна, з тым, каб правесьці „рэформу дзяржавы, яе гаспадаркі і грамадзкіх абычаяў у дусе „хрысьціянскіх ідэалаў“. Астаўшыеся ў „Цэнтралеве“ партыі твораць супольны выбарны блёк, у які ўваходзяць: „Пяст“, „Незалежная Работніцкая Партыя“—правіца, „Сялянская партыя“ (Stronnictwo Chłopskie) і П, П. С.

---

**Выметкі з г. зв. прадвыбарнага календара.**

**26 вересьня.** Абвадовая выбарная камісія перасылае адзін экзэмпляр сьпіску акружных выбаршчыкаў акружной выбарнай камісіі.

**27 верасьня.** Абвадовая выбарная камісія прад'яўляе сьпіскі выбаршчыкаў для публічнага прагляду.

**7 кастрычніка.** Падача дзяржаўных сьпіскаў кандыдатаў.

**11 кастрычніка.** Апошні тэрмін падачы рэклямацыяў у абвадовую выбарную камісію супроць апушчэньня ў сьпіску або неправідловым упісаньням каго-небудзь.

**15 кастрычніка.** Кандыдаты з дзяржаўных сьпіскаў складаюць у рукі старшыні Дзяржаўнай Выбарнай Камісіі заяву аб згодзе на стараньне здабыцьця мандату і сьцьвярджаюць, што кандыдат зьяўляецца грамадзянінам Польшчы і мае пасыўнае выбарнае права.

**17 кастрычніка.** Гэнэральны Выбарны Камісар у „Польскім Маніторы“ абвяшчае дзяржаўныя сьпіскі кандыдатаў.

Апошні тэрмін падачы опрацiўленьняў процiў рэклямацыі аб выкрэсьленьні са сьпіску.

Падача акружных сьпіскаў кандыдатаў.

**21 кастрычніка.** Абвадовыя выбарныя камісіі перасылаюць акружным выбарным камісіям два экзэмпляры сьпіскаў выбаршчыкаў.

---

**Кожны сьвядомы чытач нашае газэты з вёскі павінен дбаць аб тым, каб вясковае жыцьцё адбівалася на старонках газэты—Хай іншыя ведаюць аб нашых патрэбах.**

**Пішыце і прысылайце карэспандэнцыі.**

## *Грамадзяне!*

*Чытайце і пашырайце нашую газэту і памятайце, што амаль поўная адсутнасьць беларускіх часапісяў і газэтаў тлумачыцца нічым іншым, як нашаю шкоднаю прывычкаю — вельмі неакуратна высылаць грошы за газэту. Калі хочаце атрымліваць рэгулярна газэту, якая зьяўляецца пакуль што амаль адзінаю на нашых землях, — выконвайце свой грамадзкі абавязак чытача.*

*Газэта наша маець шмат недахопаў, але ў большай частцы яны тлумачацца адсутнасьцю матэр'яльных сродкаў.*

*У меру таго, як будуць больш рэгулярна наплываць грошы ад падпішчыкаў—газэта зможа павялічыць свой фармат і выходзіць разы 2-3 на тыдзень, а можа й штодня.*

*Пакуль што, дзякуючы павялічэньню ліку падпішчыкаў— мы маем цяпер магчымасьць рэгулярна выдаваць газэту 1 раз на тыдзень.*

*Памятайце, грамадзяне, што адчуваецца вялікая патрэба ў белар. часопісі і што гэтую патрэбу Вы можаце задаволіць толькі сваімі ўласнымі высілкамі.*

## Сучасны стан рэчаў у польскай прамысловасьці.

У апошнія часы амаль усе эўрапэйскія гаспадарствы перажываюць цяжкі гаспадарчы крызіс, які пэрыядычна ахопліваець прамысловасьць усяго сьвету.

Гэты самы цяжкі крызіс перажывае ў сучасны мамэнт і Польшча, праявы якога даюцца заўважыць ува ўсіх галінах сацыяльна-эканамічнага жыцьця.

Павялічваецца лік безработных, зьмяншаецца прадукцыя фабрык і заводаў, бо няма куды збываць тавары, павялічваецца лік банкруцтваў і г. д.

Усялякі крызіс вельмі цяжка адклікаецца на ўсім насяленьні, а перадусім на работніцкай клясе, якая, апынуўшыся без работы, вядзець зусім галоднае існаваньне.

Лік безработных ува ўсіх краёх сьвету вельмі вялікі і нават у Амэрыканскіх Зл. Штатах перавысіў 3 мільёнаў асоб.

Ува ўсёй Эўропе можна налічыць балей 25 мільёнаў безработных.

Гета ўжо зьяўляецца такой арміяй, з якою сучаснае грамадзянства мусіць лічыцца і якую мусіць матэр'яльна падтрымоўваць.

Паводлуг польскае эканамічнае прэсы — сучасны крызіс у Польшчы апынуўся як быццам на пераломе, пасьля чаго некаторыя эканамісты прадбачаць палепшаньне палажэньня.

Як доказ папрaвы сытуацыі, ці, правідловей, надзеі на палепшаньне прыводзяць тую акалічнасьць, што лік безработных у параўнаньні з прошлаю зімою паменшыўся, бо з 300.000 чал. дайшоў у апошні час да 200.000.

Заўважана таксама, што наступіла пэўнае палепшаньне і ў выплатах па вэксальным забавязаньням і, дзеля таго, у сучасны мамэнт розныя банкі з большаю ахвотаю даюць грошы пад вэксалі.

Будаўнічы рух крыху ажывіўся, а гэтая акалічнасьць зьяўляецца вельмі важнай для ўсяе польскае прамысловасьці, бо пры павялічэньні розных работ па будовам—павялічваюцца запатрабаваньні на розныя матэр'ялы — жалеза, сталь, дрэва і г. д.—а гэта ўсё вядзець да павялічэньня прадукцыі, а тым самым і да павялічэньня запатрэбаваньняў на рабочую сілу. Павялічваецца прадукцыя вугля ў зьвязку з ажыўленьнем працы на фабрыках і заводах.

Усе гэтыя дадзеныя сьведчаць аб пэўным палепшаньні эканамічнае сытуацыі, але балей

## Ад рэдакцыі і адміністрацыі газ. „Наперад“.

Усе падпісчыкі нашае газэты, якія вышлюць да 1 кастрычніка гэтага году падпісную плату поўнасьцю за верасень, кастрычнік, лістапад і сьнежань—усяго 2 зл. 75 гр., — атрымаюць гаспадарча-кооперацыйную месячную часопісь „САХА“ са зьніжкаю на 50%. Гэткім чынам, кожны наш падпісчык, выслаўшы ў рэдакцыю „Сахі“ 1 злоты і аплаціўшы газэту „Наперад“ да канца гэтага году — будзе атрымліваць „Саху“ да 1 студзеня 1931 г.— за 1 злоты. — Падпіску за „Наперад“ у суме 2 зл. 75 гр. і за „Саху“—1 зл. можна высылаць на адным пераказе, зазначыўшы толькі, якая сума ідзець на Саху, а якая на газэту.

---

асьцярожныя эканамісты кажуць, што яшчэ ня можна быць пэўным, што ў хуткім часе ўся прамысловасьць у цэлым выйдзе з таго цяжкага палажэньня, у якім яна апынулася. Вельмі шмат залежыць ад агульнае эканамічнае кан'юнктуры, якая наглядаецца ўва ўсёй Эўропе.

У вельмі цяжкіх варунках знаходзіцца нашае земляробства, дзякуючы таму сельска-гаспадарчаму крызісу, які пануе на ўсім сьвеце—з аднаго боку, а з другога—дзякуючы беззямельлю й малазямельлю, якія да гэтага часу маюць вялікі ўплыў на пагоршаньне эканамічнае сытуацыі Польшчы.

Ліквідацыя гэтага зьявішча павяла-бы да павялічэньня консумпцыі (спажываньня) самім сельскім насяленьнем хлеба і, гэткім чынам, цана на яго дайшла-бы да свайго нармальнага роўня.

Але пытаньне гэтае вельмі складанае, і разважаньне аб ім мы адкладаем да наступнага разу.

А. Мірскі.

---

## Кітайскі кацёл.

Што фактычна творыцца ў сучасны мамэнт у Кітаі і чым у канцы канцоў закончацца тыя крывавыя падзеі, якім ня відаць там і канца—на гэтае пытаньне ніхто ня можа даць адказу і нават тыя „кухары“, якія „заварылі кашу“ у гэтым катле.

Хатняя вайна ў Кітаі трывае ўжо 20 гадоў. Кітайцы б'юцца паміж сабою са ўсёю шчырасьцю і, здаецца, будуць яшчэ доўга біцца, дзякуючы таму, што на няшчасьце кітайскага народу робяць свае „шчасьце“ іншыя дзяржавы, між якімі не апошняе мейсца займае СССР.

Кітайскія падзеі й іх пачатак трэба тлумачыць тым, што вялікі 400 мільёны народ прабудзіўся са сну і захацеў утварыць незалежную дзяржаву, якая-б была пабудавана на моцных падставах права, дзе ня было-б мейсца сваяволі ні для кітайскага багдыханы, ні для чужаземных капіталістаў. Кітай мае свой вялікіх патрыётаў,—якія шчыра кахаюць свой народ і жадаюць яму шчасьця. Да ліку такіх вялікіх патрыётаў належыць Сун-Ят-Сэн, які стварыў вядомы Куомінтанг і які памёр, не дачакаўшыся аканчальнага вызваленьня свайго народу.

Але побач з такім вялікім для Кітаю чалавекам, якім быў Сун-Ят-Сэн — у Кітаі істнуець вялікае множства заусім нясумленных правадыроў і гэнэралаў. Іх купляюць розныя дзяржавы і яны робяць у Кітаі палітыку, прыносячую карысьць толькі тым дзяржавам, якія маюць „сваіх гэнэралаў“.

Многім дзяржавам залежыць на тым, каб Кітай ніколі ня стаў на свае „ўласныя ногі“, каб ён заўсёды быў у залежнасьці ад чужынцаў, якія мелі-б магчымасьць карысна ўжываць прыродныя багацьці Кітаю і эксплёатаваць кітайскі народ.

Маець у Кітаі сваіх перакупленых гэнэралаў і СССР, які пры дапамозе Комінтэрну хоча выклікаць там нібы-то сацыяльную рэвалюцыю, а фактычна імкнецца да тых-жа самых мэтаў, да якіх імкнуцца і іншыя дзяржавы.

Бо, запраўды-ж, хто сур'ёзны можа думаць аб правядзеньні ў Кітаі сацыялізму, у такім краі, дзе няма да гэтага ні эканамічных ні сацыяльных падставаў.

Кітай—пераважна край зямляробскі, аграмадная большасьць жыхарства складаецца з сялянства і вось тут якраз Комінтэрн хоча распачаць „будову сацыялізму“, таго самага сацыялізму, якога ніяк ня могуць пабудаваць савецкія камуністы ў сваіх вёсках.

Зразумела заусім, што і Комінтэрн ня маець надзеі на тое, каб у Кітаі запанаваў сацыялістычны лад, бо хіба вар'ят мог-бы пакладаць на гэта надзеі.

Мэтаю Комінтэрну зьяўляецца падтрыманьне ў Кітаі сталых разрухаў, падтрыманьне там хатняе вайны, якую на ўвесь сьвет камуністы пракрычалі „вялікаю сацыяльнаю рэвалюцыяю“, якою яны хочуць пужаць „буржуазны“ сьвет.

Нічога запраўды сацыялістычнага у кітайскіх падзеях няма й ня будзе.

Увесь час ідзець там звычайны рабунак, які можна назваць камунізмам — падзелу і які аканчальна падарве дабрабыт і сілы гэтага вялікага краю.

Ужо цяпер прыходзіцца чытаць у газэтах, што людзі ўміраюць там з голаду ня тысячамі і дзесяткамі тысяч, а цэлымі міліёнамі. А што будзе далей—згадаць ня цяжка.

Азброеныя банды розных гэнэралаў, „чырвоных“, і „белых“, нападаюць на гарады, забіраюць усё, што пападзе, выразаюць жыхароў няма ведама з якіх прычын — і на гэтым палягае сутнасьць усяго таго, што многія называюць „сацыяльнаю рэвалюцыяю“.

На паверхню кітайскага жыцьця вылезла цяпер усё тое, што аканчальна здэмаралізавана, гаспадаром палажэньня можна лічыць там азброеныя банды людзей, якія адвыклі ад нармальнай працы і якія жывуць коштам іншых, рабуючы іх і зьнішчаючы дабрабыт усяго краю.

Як падаюць апошнія газэты, у правінцыі Хэнгсу-Шэнсі шалеюць халера й чума.

Адсутнасьць усялякіх мэдыцынскіх сродкаў барацьбы вядзе да таго, што няма там места й вёскі, дзе-бы штодня не хавалі па некалькі дзесяткаў і сотак людзей.

Зараза гвалтоўна пашыраецца дзеля таго яшчэ, што жыхары вёсак эмігруюць у суседнія правінцыі й разносяць з сабою заразу. Такія зьявішчы наглядаюцца ўва ўсім Кітаі, дзе вядзецца хатняя вайна.

Вялікую адказнасьць перад гісторыяю і ўсім цывілізаваным чалавецтвам нясуць тыя дзяржавы, якія-б маглі сілаю спыніць кітайскую анархію і якія, маючы да гэтага магчымасьць, — нічога ў гэтым кірунку ня робяць, а наадварот—самі стараюцца „пагрэць рукі“ і нажыцца на няшчасьці кітайскага народу.

---

## Будучая вайна.

З кожным годам удасканальваецца ваенная тэхніка. Цэлыя арміі вучоных і тэхнікаў ува ўсіх дзяржавах сьвету працуюць над тым, каб прыдумаць найлепшыя сродкі для нішчэньня людзей у будучых войнах. Кожная дзяржава траціць шмат грошаў на ўдасканаленьне свайго азбраеньня, бо кожная маець на ўвазе, што калі яна не падбаець своечасова аб гэтай справе, то будзе пабітая пры „першым лепшым“ выпадку.

На падставе дадзеных аб сучасным стане тэхнікі, мы ўжо цяпер можам мець даволі поўнае ўяўленьне — якою будзе вайна паміж сучаснымі цывілізаванымі дзяржавамі, і якія будуць яе вынікі для міралюбнага жыхарства. Сучасныя паветраныя манэўры над Парыжам, Лёнданам, Масквой і іншымі гарадамі далі нам магчымасьць уявіць увесь той жах, які прынясе чалавецтву будучая вайна.

Многія нямецкія спэцыялісты лічаць, што армія і флёт у будучай вайне будуць непатрэбнымі. Пяхоце й кавалерыі ня будзе чаго рабіць, а першы лепшы флёт можна будзе зьнішчыць пры помачы пэўных праменьняў. Падобна да таго, як Марконі запаліў, седзячы на сваёй яхце сьвятло у Сыднэі, (на адлежнасьці 14.000 кілёмэтраў) гэткім самым чынам можна будзе нішчыць і ваенныя караблі, знаходзячыеся нават на вялікай адлежасьці. Гэтыя самыя праменьні змогуць узрываць арсэналы і газавыя фабрыкі, крэпасьці й іншыя будынкі. Аграмадную ролю ў будучай вайне адыграець паветраны флёт, які зможа ў працягу вельмі кароткага часу разбурыць усе гарады й крэпасьці.

У часе апошніх французскіх манэўраў над Ліёнам, ня гледзячы на тое, што былі прадпрыняты ўсе меры асьцярожнасьці, паветранаму флёту ўсе-ж такі ўдалося скінуць на Ліён некалькі дзесяткаў бомбаў з удушлівымі газамі, ад якіх, калі-б яны былі запраўднымі — магло-бы згінуць усё жыхарства Ліёну.

Камандуючы гэтымі манэўрамі гэнэрал Сэрыньі сам сьцьвердзіў, што ніякія сродкі абароны ня змогуць абараніць места і ўратаваць яго жыхароў ад паветраных налётаў ворага.

Да такіх самых вывадаў прыйшлі ваенныя спэцыялісты ў часе паветраных манэўраў над Лёнданам, Парыжам і Масквою.

Сучасныя гарматы, якія прызначаны для абстрэлу няпрыяцельскіх самалётаў, як аказваецца, ня могуць іх зьнішчыць.

Справа яшчэ ў тым, што той, хто робіць налёт самалётамі, — маець шмат выгадаў: ніхто ня можа ведаць, калі гэты налёт будзе зроблены і заўсёды будзе так, што абарона ня здолее адбіцца ад ворага.

Адзін з нямецкіх стратэгаў гэнэрал фон-Сэкт, у сваёй кнізе „Думкі жаўнера“—піша, між іншым, наступае:

„У будучай вайне той, хто будзе толькі абараняцца—згіне, бо ўся стратэгія павінна палягаць у бязспынных энэргічных набегах на тэрыторыю непрыяцеля“.

Да гэтага часу ваявалі толькі людзі азброеныя, жаўнеры — у будучай вайне прыйме ўдзел усё жыхарства, ня выключаючы жанчын і дзяцей. Што будзе рабіць у часе такой страшнай вайны спакойнае жыхарства вялікіх гарадоў? На гэтае пытаньне ваенныя спэцыялісты знайшлі толькі адзін адказ: трэба будзе вывозіць яго як мага далей ад тых цэнтраў, якія будуць пад пагрозай паветраных налётаў.

Лёгка аднак сказаць — вывозіць — але ці ўдасца гэта зрабіць? — На гэтае пытаньне спэцыялісты ня могуць даць ніякага адказу.

Так прыблізна павінна выглядаць будучая вайна, якая пераверне жыцьцё чалавецтва „дагары нагамі“.

---

# Палітычнае жыцьцё.

## Польшча.

### Арышты былых паслоў у Варшаве і на правінцыі.

#### Урадавы камунікат аб арыштах.

„У часе апошняй соймавай сэсіі, улады бясьпечнасьці а таксама судовыя ўлады занатавалі цэлы рад як крымінальных, так і палітычных праступленьняў, зробленых былымі соймавымі пасламі. З увагі на 21 арт. канстытуцыі, які гаворыць аб пасольскай нятыкальнасьці, вырашэньне судом гэтых справаў было часта немагчымым і цяжкім. Прапазыцыі аб выдачы паслоў судом вырашаліся або ў неазначаных тэрмінах, або вырашаліся адмоўна, як гэта было напр. з бышым паслом Дварчанінам, які страляў у паліцыю й быў арыштаваны па загаду судовых уладаў, а п. маршалак патрэбаваў яго звальненьня.

У зьвязку з няважнасьцю пасольскіх мандатаў, а значыць і пасольскай нятыкальнасьці, адпаведныя ўлады прыступілі да ўзнаўленьня справаў, награмаджаных у працягу прошлай соймавай кадэнцыі. На гэтай падставе, 10 верасьня быў затрыманы цэлы рад паслоў, якія зрабілі праступленьні як характару крымінальнага (крадзеж, ашуканства, прысваеньне чужой уласнасьці і т. д.), так і характару палітычнага (страляньне ў паліцыю, заклікі да непаслухмянасьці ўладам, процідзяржаўныя выступленьні і т. д.). Гэтыя справы, якія вяліся дагэтуль уладамі бясьпечнасьці, будуць скірованы цяпер да пракурорскіх уладаў“.

---

Уначы з аўторка на сераду, з 9 на 10 верасьня арыштаваны рад паслоў, як у сталіцы, так і на правінцыі. Усяго арыштавана 18 б. паслоў.

Арыштаваны ня толькі правадыры „Цэнтралеву“, але і тыя паслы, якія зрабілі праванарушэньні ў часе свайго пасланьня.

У Варшаве арыштаваны: у соймавым гатэлі старшыня Ц. В. К. Робэрт Барліцкі, Казімір Багінскі і Путэк з „Вызваленьня“; з сяброў П. П. С: Лібэрман, Прагер і Дубуа; арыштаваны і правадыр г. зв. Незалежнай Работніцкай партыі—правіцы, вядомы Попель, які, як пішуць газэты, замешаны ў крымінальнай справе (дастаўка для арміі нягодных да ўжытку газавых масак).

Далей арыштаваны: правадыр „Пяста“—Кернік, Александар Дэмбскі, а ў Кракаўскім ваяводзтве—Вітас, Мастэк, Цёлкош і іншыя.

З украінскіх паслоў арыштаваны: Целевіч, Паліів, Когут і Лешчынскі.

---

Арышт б. паслоў наступіў па загаду ўрадовых уладаў.

10 верасьня справы арыштаваных перададзены сьледчаму судзьдзі і пракурору.

---

Аб прычынах арышту вышэйпададзеных б. паслоў „Kur. Wil.“ падае наступныя весткі:

„Арышт былых паслоў наступіў, як паведамляюць зблізканыя да ўраду сфэры, у выніку іх дзеяльнасьці ў часе істнаваньня Сойму, калі яны хаваліся перад адказнасьцю пад пакрыўкай сваёй пасольскай нятыкальнасьці.

Як відаць са сьпісу арыштаваных бышых паслоў, знаходзяцца паміж іх розныя дзеячы з розных партыяў і закідаюцца ім усім розныя праступленьні адносна права. Ад праступленьняў чыста крымінальных, як б. пасол Бацьмага, які здэфраўдаваў некалькі тысячаў злотых з гміннай касы ў часе важнасьці мандату, дзеяльнасьці, скіраванай проціў бясьпечнасьці й публічнаму парадку, як правадыры Кракаўскага кангрэсу і арганізатары маніфэстацыяў, прыгатаваных на 14-ае верасьня, процідзяржаўнай дзеяльнасьці Абвепалю (Абоз Вялікай Польшчы), што ўжо даказана, — як напр. б. пасол Аляксандар Дэмбскі, аж да выразна ірэдыстычнай дзеяльнасьці ўкраінскіх паслоў, якія ўтрымлівалі цесную сувязь з элемэнтамі сабатажу ў Усходняй Галіцыі—усё гэта работа арыштаваных уначы з аўторка на сераду б. паслоў.

Разважаючы над падзеямі прадучорашняга дня, трэба яшчэ прыпомніць чытачом заяўленьне тагачаснага прэм'ера п. Слаўка, абвешчанае ў прэсе праз пару дзён пасьля Кракаўскага кангрэсу, у якім бышы прэм'ер падчыркнуў усю небясьпеку йгры, якую вядуць некаторыя правадыры „Цэнтралеву“.

Вось такія прычыны арышту, як падае газэта. Але паміма гэтых прычынаў, чыста фармальнага зьместу, — ёсьць і іншыя, больш глыбокія, маючыя вялікае палітычнае значэньне.

Вядома было ўсім аб напружаным палажэньні ў краі, вытварыўшымся дзякуючы тым ненармальным адносінам, якія панавалі між Соймам і Урадам.

І тая і другая старана гатавалася да „разгрыўкі“ і вось яна наступіла.

„Бязумоўна“ — кажа „Kur. Wil.“, які-ж хіба найбалей паінфармаваны ў вытварыўшайся сытуацыі — гэта ўсё не зьяўляецца апошнім актам разгарэўшайся ў Польшчы палітычнай барацьбы, якая ў апошніх месяцах быццам стала на мёртвым пункце.

„Апазыцыі здавалася, што яна набіраецца сілы да пераможнае атакі.

Пачалася энэргічная да яе падгатоўка. Але тут новы ўрад марш. Пілсудскага робіць некалькі манэўраў, якія адбіраюць ініцыятыву ў праціўніка, і пераходзіць у наступленьне“.

Уважна разьбіраючыся ў апошніх палітычных падзеях, можна прыйсьці да вываду, што ў гэтым годзе павінен закончыцца той дзяржаўны крызіс, які цягнуўся так доўга і які праз увесь час ствараў няпэўны стан рэчаў.

11 верасьня арыштаваны яшчэ адзін пасол эндэк—Квяткоўскі. Прычынаю арышту, як пішуць газэты, паслужылі вэксалёвыя афэры, якімі займаўся арыштаваны падчас свайго пасланаваньня.

### Сходы, вызначаныя на 14 верасьня—забаронены.

Цэнтральныя ўлады забаранілі ўсе сходы, якія былі вызначаны Цэнтралевам на 14 верасьня.

Як вядома, на гэты дзень Цэнтралеў вызначыў сходы аж у 20 гарадох Польшчы.

## Заграніцай.

### Выбарная кампанія ў Нямеччыне.

Выбарная кампанія ў Нямеччыне ў апошнія дні перад рашучым днём выбараў страшэнна завастрылася. Сутычкі паміж крайнімі фалянгамі — камуністамі і гітляроўцамі — дайшлі да нячуванага завастрэньня. Характэрна, што камуністы высунулі выбарныя лёзунгі такога ярка — нацыяналістычнага зьместу, што пабілі імі ня толькі нацыяналістаў, але і „гітляроўцаў“. Сацыялістычная прэса раскрыла, што гэтая выбарная адозва камуністаў была быццам прывезена з Масквы гатовай... З Масквы быццам атрыманы загад падтрымліваць лёзунгі крайніх нацыяналістаў, каб памагчы перамозе ў краі проці — вэрсальскага руху. Масква ставіць стаўку на гэтую перамогу нацыяналістаў у Нямеччыне, якія найлепш здолеюць давясьці да агульнага канфлікту з саюзьнікамі абаронцамі нятыкальнасьці трактатаў у Эўропе. Новая вайна, паводле бальшавіцкай думкі, няўхільна прывядзе ўжо да камуністычнай рэвалюцыі ў Эўропе... У апошнія дні нацыяналісты адкрыта кінулі лёзунг адбудовы манархіі. З прамовы лідэра нацыяналістаў Гіндэнбурга ясна заяўлялася, што „толькі імпэратарская Нямеччына скіне з сябе ланцугі й путы саюзьніцкай апекі, скасуе руйнуючы яе „плян Юнга“ і зьверне сабе адабраныя „нямецкія“ землі. У новым парлямэньце Гіндэнбург спадзяецца мець— разам з „гітляроўцамі“ няменш, як 150 мандатаў...

Але зусім не адна толькі крайняя правіца, ці крайняя лявіца высоўваюць такія ваяўніча-нацыяналістычныя лёзунгі. Нават буржуазны цэнтр, на чале з мін. Трэвіранусам і ген. Зэктам у прадвыбарных прамовах заклікаюць да рашучага разрыву з палітыкай паразуменьня з саюзьнікамі і на заходзе, калі яны ня здоляюць націснуць на Польшчу, каб мірна ўступіла гданскі „калідор“, ды ня зьвернуць Нямеччыне яе былых калёніяў і т. д.

Паводле падрахункаў прэсы склад новага парляманту мае быць такі: сацыял-дэмакраты захаваюць свае мандаты — каля 150; камуністы здабудуць 50 мейсцаў (!); „гітляроўцы“ („нацыянал-сацыялісты“) — 40; каталіцкі цэнтр разам з баварскімі людоўцамі — 65; нова-створаная „гаспадарственная партыя“—каля 50; гаспадарчая партыя—20. Рэшту мае ўзяць правіца, якая, апроч расклоўшыхся нацыяналістаў, зьмяшчае ў сабе—кансэрватараў, хадэкаў, „партыю сялянскага люду“ і драбнейшыя групкі. У кожным разе прадбачуць, што новы парлямэнт будзе больш правы, больш нацыяналістычна і ваяўніча настроены, як папярэдні. А гэта пэўне-ж азначае, што нямецкая палітыка больш рашуча пачне праводзіць у жыцьцё усе тыя лёзунгі адбудовы даваеннага становішча Нямеччыны, якія блізу ўсе партыі згодна выставілі на чале сваіх выбарных плятформаў.

### Фінлянска-радавы канфлікт.

Як ведама, востры проці-камуністычны, так званы „лаппаўскі“ рух у Фінляндыі страшэнна абурае бальшавікоў. „Лаппаўцы“, як ведама, ўсьцяж хапаюць камуністаў, вывозяць іх на самаходах на радавую граніцу дый „перакідаюць“ на той яе бок. — „Калі захапляешся радавымі парадкамі, дык маеш іх—бяжы-ж туды, дзе так добра“... Урэшце радавы ўрад ня вытрымаў і праз свайго пасла ў Гэльсінгфорсе заявіў ізноў рашучы пратэст, пагражаючы „вострымі мерамі, калі ня будуць спынены перакіданьні камуністаў праз граніцу“. Гэты пратэст—ужо другі—напісаны ў вельмі рэзкіх словах—таму, што на першы фінлянскі ўрад ня даў ніякага адказу.

Канфлікт гэты мае асабліва трывожны характэр таму, што ў апошні час радавы ўрад будуе ўздоўж граніцы з Фінляндыяй цэлую сець стратэгічных чыгункавых шляхоў і шосаў, а так сама ваенных базаў, яўна рыхтуючыся да вайны — як цьвердзіць радавая прэса,—„абароннай“...

### Завастрэньне адносінаў між Югаславіяй і Італіяй.

Як ведама, у выніку вялікай вайны, у склад Італіі ўвайшлі значныя абшары, населеныя харватамі і славенцамі. Але фашыстаўская Італія ня прызнае ніякіх меншасьцяў—тым больш, што вялікія дзяржавы накінулі меншасьцявыя трактаты толькі новым ды слабейшым дзяржавам, але сабе пакінулі зусім вольныя рукі... Дык гвалтоўная „італьянізацыя“ славянаў дый нават немцаў на італьянскіх „крэсах“ ідзе ўваўсю. Таму—да агульна-югаслаўскай ненавісьці да Італіі — за фактычны захват Альбаніі дый пагрозу далейшай „экспансіі“ на Балканах—далучаецца яшчэ й спэцыяльная ненавісьць да італьянцаў з боку харватаў і славенцаў — за захват імі нацыянальных тэрыторыяў апошніх і нячуваныя катаваньні й зьдзекі над іх жыхарамі — на шляху „пераробкі“ іх у італьянцаў...

Толькі што ўся Югаславія была ўсхвалявана казьняй 4 маладых славенцаў, якіх „суд“ прысудзіў на сьмерць за „сэпаратыстычныя імкненьні“.

Пратэсты проціў гэтай казьні прынялі такі вострыя і бурны характар, што югаслаўскі ўрад быў змушаны мабілізаваць усе паліцэйскія, а часам і ваенныя сілы, каб абараніць італьянскія консульствы ад разгрому...

У пагранічным раёне Славеніі пачаліся фармальныя бai паміж фашыстамі і славенцамі—так, што югаслаўскі ўрад змушаны быў зачыніць граніцу. Палажэньне стала настолькі паважнае, што італьянскі ўрад змабілізаваў 4 гадавікі запасных у сваіх балканскіх акругох, а міністар Грандi кінуў працу ў Лізе Нацыяў і сьпешна вярнуўся ў Рым. Спадзяюцца агульнага паўстаньня славенцаў у Італіі, што пэўне-ж выклікае жорсткія крывавыя рэпрэсіі з боку фашыстаў. А гэта не застанецца без адказу з боку югаслаўскіх славенцаў і харватаў... Французкая прэса дапускае нават магчымасьць аружнага канфлікту паміж Італіяй і Югаславіяй.

### Польска-літоўскі спор у Лізе Нацыяў.

Літоўская прэса цьвердзіць, што польска-літоўскі спор на бягучай сэсіі Лігі разглядацца ў поўні ня будзе. Жэнэўская прэса паведамляе так сама, што транзытная камісія Лігі запрапанавала Літве адчыніць рух на літоўскім адрэзку даваеннай Лібава-Роменскай чыгункавай лініі. Гэтая лінія, як ведама, цяпер праходзіць па тэрыторыі чатырох дзяржаваў: СССР, Польшчы, Латвіі і Літвы. Маючы вялізарнае гаспадарчае значэньне для іх усіх, а асабліва для Лібаўскага порту, яна ня жыве з волі Літвы... Апрача таго, транзытная камісія трэбуе ад Літвы цалком адчыніць транзытны рух па Нёмне.

## Кароткія навіны.

Савецкія газэты б'юць трывогу з прычыны росту антысэмітызму. На гэты раз проціжыдоўскія настроі ахапілі прамысловыя раёны Уралу.

У румынскім Міністэрстве Вайсковых Спраў праводзяцца многія рэформы. Між іншым, маець быць зрэдукавана значная колькасьць гэнэралаў, якіх аказалася ў 2 разы балей, чым у францускай арміі, ня гледзячы на тое, што француская армія ў 5 разоў вялікшая ад румынскай.

У Саветах ізноў праведзяны арышты сярод вучоных і эканамістаў. Згодна весткам пададзеным Тасс'ам арыштаваны Громан, коопэратар Чаянаў, Суханаў і шмат іншых асобаў.

Дырэктар музэю ў Гмундэне — выпадкова знайшоў у капліцы абраз Рафаэля.

Газэты шмат пішуць аб гвалтоўнай буры, якая пранеслася над востравам Гаіці. Палова места Сан-Дамінго разбурана, другая палова заліта вадою. Забітых налічываюць да 800 асоб, раненых больш, 1000 жыхарства засталося без страхі над галавою і церпіць голад. Ува ўсёй рэспубліцы Сан-Дамінго амаль няма ні аднаго мястэчка, якое ня было-б зьнішчана бураю.

Ваенна-Рэвалюцыйная Рада СССР занепакоена агітацыяю, якую вядуць апазыцыёністы правага ўхілу компартыі сярод войска. Выясьнілася, што савецкія жаўнеры ня толькі не згаджаюцца з „пралетарскай ідэолёгіяй“, але на сколькі пераважная іх частка складаецца з сялянскіх сыноў — сымпатыі іх схіляюцца ў бок прыгнечанага ў Саветах сялянства. У зьвязку з гэтым, дадзены загад аб узмацненьні ў арміі палітычнага кантролю, асабліва сярод навабранцаў. Тыя з іх, якія акажуцца „неблагонадежнымі“ — будуць ссылацца ў асобныя лягеры на прымусовыя работы.

Ува многіх гарадох Югаславіі адбыліся варожыя маніфэстацыі проціў Італіі. Так напр., 8 верасьня, у Заграбе сабралася вялікая таўпа, пераважна студэнтаў, якая прайшла галоўнымі вуліцамі і скіравалася да гмаху італьянскага консуляту, аднак паліцыя не дапусьціла да якіх небудзь паважнейшых беспарадкаў.

Савецкія газэты пішуць аб дэзарганізацыі транспарту. Амаль на ўсіх чугунках рух пасажырскіх цягнікоў адбываецца з апазьненьнямі на 12 і балей гадз.

Галоўнаю прычынаю гэтай дэзарганізацыі зьяўляецца сапсуцьцё руховага складу й дэмаралізацыя сярод чугуншчыкаў.

## Беларускі Студэнскі Саюз у Вільні.

Год у год, побач з моладзьдзю іншых нацыянальнасьцяў, будучых сяньня ў шчасьлівейшым ад нас палажэньні, прыбываеш і Ты—Беларуская Моладзь на унівэрсытэцкія студыі, хоць, праўда, ня так лічна, бо не пазваляе на гэта нашае цяжкое матэр'яльнае палажэньне, і ня так весела і бурліва, бо ідзеш не ў сваю родную вышэйшую школу, а ў чужую як па мове, так і па духу.

З другога боку нашым сьвятым абавязкам ёсьць, пачынаючы з унівэрсытэцкае лавы, ўваходзіць ужо ў грамадзкае жыцьцё, працаваць для дабра і карысьці таго народу, з якога мы выйшлі і да якога ўзноў вернемся ў недалёкай будучыні, як фахова-грамадзкія працаўнікі.

І подлыя будзем, калі да яго вернемся чужыя душою, з нячулым сэрцам на яго крыўду і нэндзу, будзем зьвяртацца да яго ў чужой мове і ненавідзець тое, што для яго ёсьць найдаражэйшым.

І вось, каб у працягу некулькігодніх студыяў стацца ня толькі добрым фахоўцам у абраным кірунку, а каб быць усестароньнім працаўніком на беларускай грамадзкай ніве, і належна сплачываць свой доўг перад народам,—то мала аднаго Унівэрсытэту, а трэба ўсебакова ўзгадоўваць сябе па за унівэрсытэцкімі мурамі:—**у сваёй беларускай студэнскай сям'і!**

Толькі туды для нас дарога, дзе ў цеснай каляжэнскай сямейцы моцна б'ецца жывое беларускае сэрца, дзе ў меру вольных студэнскіх хвілінаў вядзецца грамадзкая беларуская праца; гдзе кожны адчувае й думае ў такт думак і адчуваньняў многамільённага беларускага працоўнага народу.

І як ня сумна, што яшчэ многія, вышаўшыя з пад беларускіх саламяных стрэхаў, сьлепа гоняцца за чужою культураю, забываюцца, а на'т пагарджаюць сваім родным і становяцца рэнэгатамі свайго народу.

Але хай з кожным годам будзе такіх што раз менш, хай кожны скажа сьмела і адкрыта:— **даволі ўласнымі крывавымі высілкамі ўзбагачываць чужацкія нівы!**

**Дык Сёстры і Браты Маладыя!**

Усе, як адзін, вышаўшыя з беларускага працоўнага народу, гуртуйцеся толькі пад свой беларускі бел-чырвона-белы сьцяг, усе масава запісывайцеся ў сваю студэнскую арганізацыю — **„Беларускі Студэнскі Саюз“.**

„Беларускі Студэнскі Саюз“ адчынены штодня ад 5 да 7 гадз. ўвечары пры Віленскай вул. № 8—3 (уваход з вуліцы).

Адначасна запрашаем усё беларускае студэнства на першы ў гэтым годзе Інфармацыйны Сход, каторы адбудзецца дня 12 кастрычніка 1930 г. а гадз. 4 па паўдні ў памяшчэньні Саюзу пры Віленскай вул. № 8—3.

Урад Белар. Студэнскага Саюзу.

Вільня, 15 верасьня 1930 г.

## Хроніка.

**Цэнтральны Саюз Беларускіх Культурна-Асьветных і гаспадарчых арганізацый і інстытуцый** распачаў сваю працу. За ўсялякімі спраўкамі, якія датычаць гэтага Саюзу, трэба зьвяртацца па адрасу: Wilno, Ostrobramska 9, m. 22,

Як мы даведываемся, справа звальненьня рэктара Дух. Сэмінарыі прат. Тучэмскага цесна зьвязана з выкрытымі ў сэмінарыйных рахунковых кніжках недакладнасьцямі, якія сягаюць да 50.000 зл.

У зьвязку з гэтым Віл. Куратoрыум адмовіла рэкт. Тучэмскаму ў выезьдзе на дырэктарскія чатырохтыднёвыя курсы ў Варшаву.

**Ізноў камуністычны „архіў“.** Як падае „Dziennik Wileński“, 6 г. месяца віленская паліцыя выкрыла камуністычны архіў і тайную друкарню на Шкляной вул., якая друкавала прадвыбарныя адозвы.

Знойдзена некалькі тысячаў адозваў, якія аж у двух вялікіх куфрах павандравалі ў сьледчую паліцыю. У зьвязку з гэтым праведзены ў Вільні арышты й рэвізыі сярод камуністаў.

Выйшаў з друку „Статут Цэнтральнага Саюзу Бел. культурна-асьветных і гаспадарчых арганізацый і інстытуцый“, які можна набыць у беларускай кнігарні ў Вільні — Вострабрамская 1, і ў памяшчэньні Саюзу: Вострабрамская 9, кв. 22.

Цэнтральны Саюз белар. арганізацый і ўстаноў на апошнім паседжаньні сваіх сяброў —

# Зьезд.

27 верасьня г. г. адбудзецца ў Вільні Зьезд прадстаўнікоў усіх беларускіх арганізацыяў і інстытуцыяў.

Зьезд будзе насіць арганізацыйны характар, на якім маець быць выбраны кіраўнічы орган „Цэнтральнага Саюзу беларускіх культурна-асьветных і гаспадарскіх арганізацыяў і інстытуцыяў".

Кожная наша ўстанова павінна прыслаць сваіх прадстаўнікоў.

Зьезд склікаецца на 3 г. дня ў памяшчэньні Белар. Студэнскага Саюзу—Віленская вул. № 8—3.

пастанавіў прыняць удзел у выбарнай акцы і ўтварыў Выбарны Камітэт, які займецца справамі правядзеньня выбароў у Сойм ад Цэнтра саюзу.

Склад Выбарнага К-ту наступны: Старшыня— Ф. Акінчыц; Сябры: радны м. Вільні К. Крук, Мікола Ільяшэвіч і В. Грышкевіч.

Адрэс Выб. К-ту: Wilno, Ostrobramska ul.9, m. 22.

✕ Выйшаў з друку „Беларускі правапіс" Р. Астроўскага, другое выданьне, значна дапоўненае, на 150 старонках друку.

Прадаецца ўва ўсіх беларускіх кнігарнях.

## Палёт Андрэ на паўночны полюс.

Нядаўна абыйшла ўвесь сьвет вестка аб тым, што знойдзены рэшткі ад экспэдыці Андрэ і нават рэшткі яго трупа і тых сяброў, якія з ім былі.

Гісторыя гэтага палёту такая:

11 ліпня 1897 году шведзкі вучоны Саламон Андрэ, калі ня было яшчэ ні аэрапляпаў ні г. зв. „цэпэлінаў", у звычайнай гандолі звычайнай паветранай кулі адважыўся ляцець аж на самы паўночны полюс.

Вучоныя людзі ніяк ня маглі згадзіцца з тым, што да гэтага часу ёсьць на зямлі яшчэ такія пункты, дзе ня была яшчэ людзкая нага.

Выляцеў ён са Шпіцбэргавых вастравоў, захапіўшы з сабою правіянту на некалькі месяцаў і розныя навуковыя прылады і інструмэнты. Увесь сьвет з жахам і вялікім зацікаўленьнем чакаў на тое, чым закончыцца гэтая экспэдыцыя, ня бывалая да таго часу па сваёй рызыкаўнасьці.

Людзі чакалі тыднямі, месяцамі, а пра экспэдыцыю ня было ніякіх вестак. Прайшоў яшчэ нейкі час і людзі патроху пачалі забываць і пра экспэдыцыю і пра яе арганізатара Андрэ.

Такія былі адносіны агулу, які вельмі скора можа забываць і пра сваіх герояў і пра сваіх вялікіх людзей.

Памяталі яго толькі людзі, якія не забываліся аб тым, што ў той ці іншы спосаб трэба даляцець да паўночнага полюсу і зрабіць там навуковыя досьледы. Гэтыя людзі ахвяроўвалі сваё жыцьцё для гэтай мэты, маючы на ўвазе дабро ўсяго чалавецтва. Падчас сваіх падарожжаў да полюса кожны з такіх лётчыкаў шукаў тое мейсца дзе мог згінуць Андрэ і стараўся наткнуцца на рэшткі яго экспэдыцыі.

Доўга гэта не ўдавалася і вось толькі ў гэтым годзе, 6-га жніўня, вядомаму нарвэжскаму падарожніку Горну ўдалося знайсьці рэшткі цела трох людзей, з якіх адзін быў труп самога Андрэ, а два іншых — яго таварышоў па нясчасьцю.

Тут жа знойдзены быў днеўнік, пісаны рукою самаго Андрэ. Знойдзена гэта ўсе на невялічкім вастраўку з архіпэлагу г. зв. „Белых выспаў".

Горн адразу павядоміў аб усім швэдзкі ўрад, які выслаў статак і помач у людзях. Рэшткі экспэдыцыі Андрэ былі перавезяны ў Швэцыю дзе і былі пахованы на ўрадовы кошт з вялікаю помпаю.

Як відаць з тых заметак, якія знойдзены ў днеўніку Андрэ, пасьля таго, як экспэдыцыя з-за некай катастрофы спусьцілася на зямлю — яна мусіла іосьці далей пехатою сярод вечных лядзяных гор і сьнягоў. Пайшлі ў кірунку Грэнляндыі і былі ў дарозе каля 6 тыдняў, прайшоўшы ў гэты час каля 400 кілёмэтраў сярод страшэнных труднасьцяў і розных перашкод.

Дайшлі нарэшце да некай малога вастроўка і тут пакінулі іх сілы. Ня стала правіянту,—мусілі ўміраць. І памерлі геройскі, на слаўным пастарунку—дзеля чалавецтва, дзеля навукі. Іх імёны перайшлі ў гісторыю, як мучанікаў ідэі.

## Сучасны стан марскога ўзбраеньня.

Вельмі цікава прыраўнаць марскія сілы найвялікшых дзяржаваў. Гэтыя сілы выглядаюць так:

Злучаныя Штаты маюць — 18 вялікіх марскіх караблёў, 24 крэйсароў, 295 тарпэдаўцаў і 122 падводных лодак.

**Англія:** 20 вялікіх марскіх караблёў, 3 караблі для абароны пабярэжжа, 54 крэйсароў, 161 тарпэдаўцаў і 59 падводных лодак.

**Францыя:** 9 вялікіх ваенных караблёў, 16 крэйсароў, 86 тарпэдаўцаў і 70 падводных лодак.

**Італія:** 4 вялікіх марскіх караблёў, 13 крэйсэраў, 124 тарпэдаўцаў і 46 падводных лодак.

**Нямеччына:** 8 панцэрнікаў для абароны пабярэжжа, 8 крэйсароў і 32 тарпэдаўцы.

## Новы спосаб нішчэньня людзей.

У выніку спробаў вучоных знайсьці магчымасьць міжплянэтарнае камунікацыі пры помачы ракет, ваенныя сфэры прыдумалі застасаваньне ракетаў у вайне. Ракета, нясучы з сабой выбуховы й нішчачы ўсё матэр'ял, перавысіць у шмат разоў дасканальнасьцю далёканосныя арудзьдзі. Пры помачы страляючых ракет можна будзе знішчыць гарады й людзей на вялізарныя адлежнасьці, аж да 500 клм. Такім чынам, у будучай вайне будзе ўсё залежаць ад дасканальнасьці ўзбраеньня ў ракеты. Вучоныя, асабліва ў Злучаных Штатах, заняты ў сучасны мамэнт удасканаленьнем гэтых ракет. Аднак усё трымаецца ў тайне...

## Усячына.

### Зьмяншэньне буслаў.

Заўважана, што колькасьць буслаў з году ў год памяншаецца.

Так напр. у гэтым годзе на 118 гнёздаў, якія былі пад кантроляй—ня знайдзена маладых у 33 гнёздах. Убытак буслаў сцьверджана ўва ўсім сьвеце і прычыны яго дагэтуль навукаю ня высьнены.



Прачытаўшы газэту — перадай другому.

# Выбарчы Камітэт Цэнтральнага Саюзу

## Беларускіх Культ.-Асьветных і Гаспадарчых Установаў і Інстытуцыяў

зьвяртаецца да ўсяго нацыянальнага сьвядомага беларускага грамадзянства якому дарага наша нацыянальна-культурнае адраджэньне, каб усе сталі да працы для падгатоўкі перамогі нашае лісты ў надыходзячых выбарах. Ня трацьце часу й тварыце па мястэчках і вёсках выбарчыя камітэты Беларускага Цэнтра-Саюзу, гуртуйце каля іх сялянства і надсылайце весткі аб сабе па адрэсу Wilno, ulica Ostrobramska 9, m. 22. Komitet Wyborczy, дзе можна атрымаць усе спраўкі, якія будуць патрэбны.

Старшыня К-ту **Ф. Акінчыц.**

Сэкрэтар **К. Крук.**



Рэдактар-Выдавец: **М. Сіняўскі.**

Друкарня Я. ЛЕВІНА Вільня, Нямецкая 22.